# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1636) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 20 ВЕРАСНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Злева: Антаніна Ігнацюк, Людміла Саевіч, Ніна Шыкула, Анна Бідуля, Рэната Вашковяк, Мар'я Кандрацюк, Віктар Лсанкевіч — акампаніятар.

## ЗАЎСЁДЫ З ПЕСНЯЙ

Жаночы вакальны калектыў з Чаромхі-станцыі арганізаваўся некалькі год таму назад. Ініцыятарам быў Міхась Артышэвіч з Кляшчэляў, а стварыла яго Антаніна Ігнацюк — мясцовы сімпатык роднай песні.

— Было гэта ў 1982 годзе, дакладна не памятаю, — гаворыць Антаніна Ігнацюк. — Прыехаў да нас М. Артышэвіч і кажа: „Хочам у Чаромсе арганізаваць хор. Пагаварыце з жанчынамі..."

І я пачала разглядацца за кандыдатамі. У рухова-гандлёвай службе на станцыі далучаецца толькі Рэната Вашковяк. Больш не было ахвотных, хоць праўду сказаўшы, ёсць тут жанчыны з „галасамі". Пасля прыйшлі: Марыся Кандрацюк з медпункта, Людміла Саевіч з Гміннай управы, Ніна Шыкула і Аня Бідуля. Столькі членаў налічвае калектыў. Пачаліся рэпетыцыі пад кіраўніцтвам М. Артышэвіча. Раз у тыдзень, у кожны панядзелак, жанчыны сур'ёзна і ахвотна ўдзельнічалі ў рэпетыцыях.

Ужо праз некалькі месяцаў яны выступілі з першым канцэртам перад мясцовай аўдыторыяй. Затым пайшлі іншыя канцэрты. Зараз можна сказаць, што амаль ніводная святочная вечарына не адбудзецца ў Чаромсе без іх удзелу.

Рэпертуар калектыву даволі багаты. У праграме знайшліся песні беларускіх, рускіх і польскіх кампазітараў. Старынныя і сучасныя жартоўныя і ваенныя, а ўсё залежыць ад нагоды, якой прысвячаецца вечар.

— Скажы, Тося, — звяртаюся да сяброўкі, — дзе вы пабывалі з канцэртамі? Якія засталіся ў вас успаміны з тых паездак?..

— Кожны год удзельнічаем у конкурсах беларускай і савецкай песні, — гаворыць мая субяседніца. — У мінулым годзе выступілі на гмінных дажынках у Нарве, а ў гэтым — на беларускім кірмашы. Уражанні? — Небывалыя! Сяброўская атмасфера, новыя знаёмствы. А калі прыбавіць дыпломы прызнання, узнагароды, дык чалавек адчувае сапраўды вялікую сатысфакцыю.

(Працяг на стар. 2)

## УСЁ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

Прадпрыемства будаўнічай сталяркі імя Сяргея Прытыцкага ў Саколцы з'яўляецца адзіным прадпрыемствам такога профілю ў паўночна-ўсходнім рэгіёне нашай краіны. Гэта яно забяспечвае будаўнічай сталяркай у асноўным усе будаўнічыя прадпрыемствы і фірмы навакольных ваяводстваў. На працягу года выкарыстоўваецца тут 60 тысяч кубаметраў драўніны. Галоўная прадукцыя прадпрыемства гэта вокны і дзверы, іх выпрабляецца тут 1 млн. 200 тыс. кв. метраў, у тым ліку 350 тыс. кв. метраў трохшыбавых вокан, якія да нядаўна былі яшчэ навінкаю, а такія ж вокны вельмі патрэбныя ў тых рэгіёнах краіны, дзе зіма бывае даволі суровая.

На прадпрыемстве працуе 1150 чалавек, сярэдні месячны заробак — 27 тыс. 500 зл. Тут шмат будынкаў, шмат цэхаў. Вялікую плошчу займае склад драўніны. Ёсць і рабочы інтэрнат, у якім жыве каля ста чалавек. Да комплекса прадпрыемстваў даязджае аўтобус гарадской камунікацыі. Рабочыя ў грамадскім пачыне зрабілі тут прыпынак з дашком.

Як і на кожным вялікім прадпрыемстве, ёсць тут шмат розных спраў, звязаных і з вытворчасцю, і са штодзённай працай і жыццём рабочых. Вырашаць іх дапамагаюць партыйная арганізацыя, у якой ёсць дзесяць пярвічных арганізацый, аб'ядноўваючых 126

(Працяг на стар. 5)

Янка Брыль

## ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

Калі гэта добра — адразу бачыць у напісаным дрэннае, дык, можа, яшчэ лепш — бачыць, што пішацца дрэнна, і не пісаць яго?

*

Гэта нармальна, што ў мяне яно ёсць, было і будзе — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, — нягледзячы ні на што.

Я быў рады, знайшоўшы гэтую сцежку ў юнацтве, яна мяне вядзе сёння, даволі часта грэючы, адаграваючы запаветным цяплом.

*

Ад артыкула пра Чачота — у пісьмы Міцкевіча да „каханага Яна". На сорак шэсць пісьмаў з Вільні і Коўна, з Масквы і Жэневы двойчы зварот па-мясцоваму, па-наваградску: „Янко".

Цёпла гаворыць гэта пра іхняе нам зямляцтва. Нават трошкі больш...

*

Трэба змагацца за самога сябе з самім сабою. У мяне было не толькі адно дрэннае. Я вельмі часта, у вельмі многім быў наіўны, і, у выніку, гэта і ратавала, выратавала мяне ў цэлым. У маі юнасці была мая шчырасць, маё жаданне быць лепшым, быць карысным у самым галоўным.

*

Найбольшы ордэн той, якога ты не чакаў, а яшчэ лепш — якога ты не выпрошваў, няхай не проста, а сваімі паводзінамі.

*

Гарыла вельмі не любіць, каб ёй глядзелі ў вочы.

Гарылападобныя — таксама.

Успамінаю тых, каму асмельваўся зірнуць пад бровы.

*

Вялікая культура народа складаецца з намаганняў, працы і барацьбы мноства малых і маленькіх патрыётаў. Безліч прозвішчаў у навуковым сведчанні — польскім двухтомным энцыклапедычным даведніку па літаратуры, — прозвішчаў, якіх, здаецца, не злічыць, а ўжо напэўна ж не запомніць. І не ахапіць уяўленнем усіх тых, што за імі стаяць, — людзей жывых у свой час і непаўторна розных.

*

Думаў учора, сёння зноў думаю, нібы ясней, што ў жыцці кожнага з нас ёсць белавік і чарнавік. І чарнавік гэты знішчыць — выкрасліць з памяці — нельга...




### АБ ПІЛСУДСКІМ

У дваццаць пятай „Ніве“ Алесь Барскі апісаў, як па Пілсудскім калісьці плакалі, ды і цяпер некаторыя ўзвышаюць яшчэ гэтага страшнага чалавека. Дзіўна, тым больш дзіўна, што сярод гэтых некаторых, як піша Барскі, знаходзяцца і маладыя беларусы. У нейкай меры можна іх зразумець, бо даваенных часоў яны не ведаюць, замаладыя, а гістарычная навука ў нас занядбаная, таму і нядзіжка маладзіку ступіць на фальшывую дарогу... Я пра Пілсудскага начытаўся, але толькі таму, што маю дома неблагую бібліятэку, якой не кожны можа пахваліцца. Не буду распісвацца аб тым, з якой агідаю чытаў я даваенныя выданні на гэтую тэму, ад якіх ажно ззяе нянавісць да ўсяго, што няпольскае, асабліва, калі што звязана з Расіяй. Нас, беларусаў, дык і за людзей не лічылі пілсудчыкі.

Ведаю, якая жалоба адбывалася ў нашых Дубічах Царкоўных па смерці таго ж Пілсудскага. Адбылася вялікая цырымонія каля царквы і школы, на якой усе былі, хто сам, а хто і пад прымусам. Дуб пасадзілі, прыгожа абгарадзілі яго плоцікам, палымяныя прамовы былі сказаны.

Дуб гэты доўга не парос. Настала ноч і яго чыесьці рукі вырвалі ды выкінулі невядома куды. Пасля даведаўся я, што і мой дзядзька Мяфодзі прыклаў быў свае рукі да пагібелі таго дуба разам з аздобным плоцікам. Народам, так наогул, лёгка маніпуляваць, таму вельмі патрэбны свядомыя сілы ў ім. Памёр Пілсудскі — плакалі нават некаторыя беларусы, хоць яны шыш мелі ад улады гэтага „Дзядка“. Але, як я ўжо памятаю, сёй-той плакаў і па Сталіне!

**М. Панфілюк**

### МАСТАЦТВА — СУР'ЁЗНАЯ СПРАВА

Музыку трэба і разумець і адчуваць. Трэба знацца на ўсякіх фугах, гармоніцы, „дур“ гэта ці „моль“ мелодыі, каб магчы задумацца над жыццём, яго сэнсам. А можа і не трэба? Дапамагае музыка чалавеку, як, прыкладна кажучы, паэзія Надзеі Артымовіч, каб быць лепшым, глыбейшым, разумнейшым, ці перашкаджае, як той вячэрні камар?

Калі разумеем музыку ды адчуваем яе, пачынаем любіць яе, хочацца бываць у філармоніі, набываць пласцінкі, магнітафонныя стужкі з канцэртамі, з песнямі нашых „Васілёчкаў“ або „Дубіноў“.

Музыка падзяляецца на лёгкую і сур'ёзную. Лёгкую можна слухаць усюды, нават працуючы. Для сур'ёзнай музыкі патрэбны ўмовы. Каб яе слухаць, трэба ўжо культурнасці, разумення свету.

Не думайце, дарагія, што іначай з іншай творчасцю чалавека. Лёгкую кніжку можна чытаць абы-дзе, але вялікую літаратуру абы-дзе не будзеш чытаць, трэба спецыяльна чытаць, сканцэнтраваўшыся. Чытанне добрай кніжкі гэта таксама праца, а не толькі адпачынак.

Вось гэтых некалькі думак прыйшлі мне ў галаву пры нагодзе нашых некаторых дыскусій у „Ніве“, у якіх часам можна пачуць дзіўнае пра творчасць і мастацтва. Мастацтва гэта не бубен на маладзёжнай забаве і не вылежванне жыватом дагары. Гэта памылка прымітыва лічыць мастацтва ажыўленай гульнёю, гармонікам на вяселлі!..

**М. Махнацкі**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Палац у Дайлідах (Беласток). Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 3)

## ДОБРЫ КУРОРТ

прадставіць спісак 10 чалавек, якія павінны паехаць ва ўзнагароду. Як паказала будучыня, якраз такіх людзей няма чаго саромецца за граніцай, не толькі таму, што ўмелі спяваць „Беларусачку...“ Некалькі чалавек атрымалі мы „зверху“ — са студэнцкай спулдзельні, з ЗСМП і з паручэння розных братоў і сватоў. Хаця злосць мяне заядала, бо чаго як чаго, але найбольш ненавіджу кумаўства, трэба было прыняць усіх гэтых, а некалькі каштоўных людзей мы пакінулі (хаця для іх гэта быў апошні шанц паехаць у МСРБ, добра вучацца, многа зрабілі для асяроддзя, як хаця б Эля Данілевіч ці Мірка Юхімук). І вось што аказалася: тыя пяць-шэсць чалавек ніколі не хацелі падначаліцца групе, калі ўсе працавалі — яны ляжалі пад карчом і яшчэ смяяліся, дзень у дзень спазняліся на работу, прападалі недзе нанач з інтэрната, паявілася віно і гэта было настолькі яўна, у транспарце, што гаспадары былі прымушаны рэзка звярнуць увагу. Адзін з сяброў ударыў дзяўчыну ў твар, кідаўся міжнародным „мясам“ (перад ім мяне асцерагалі яшчэ да выезду, што гэта слаўны „фашыст“, які не раз тэрарызаваў групу, апошні раз у Гродне; цікава, чаму ж яго заўсёды бяруць — ці таму, што яго жонка ва ўладах ЗСМП?!). Не гавару ўжо аб нахабным „гандлі“, калі польскія студэнты зачаплялі людзей на вуліцы ці ў краме і ўпіхалі ім сваё барахло! Я даўно ўжо вырасла з крыку, і здавалася мне, што гаворачы з дарослымі людзьмі, можна ім неяк усё растлумачыць. Але на некаторых памог бы толькі біч, і то яшчэ з дзяцінства. Даходзіла ўжо да таго, што трэба было ўзяць за шыварат і выслаць хама дахаты, а не цацкацца з ім. Якраз справу Марка М. (і дзвюх асоб, якія бушавалі ў Чэхаславакіі) будзе разглядаць сяброўскі суд і рэктар.

Хаця ў нашай памяці назаўсёды застануцца цудоўныя краявіды Малдавіі і Украіны, новыя сябры і песні, заўсёды аднак будзем думаць з горыччу і сорамам, што магло быць лепш з нашымі паводзінамі.

Адзіны спосаб, каб кончыць з гэтым — востры адбор, чым больш суровы, тым лепш для нас як арганізацыі і для апініі палякаў за граніцай.

**Міра Лукша**

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### МАЛОЕ ЎСЁ ХОЧА ВЕДАЦЬ

У рэйсавым аўтобусе, які ў суботу 18 ліпеня выехаў з Крынак праз Гураны і Шудзялава ў Саколку, раптам пачулі пасажыры беларускую мову ў радыёрэпрадуктары. Гэта шафёр уключыў перадачу Праховіча, што здарылася яшчэ паміж Новым і Паўднёвым Астравамі, на пыльнай жвіроўванцы. Тады загаварыў да мяне даволі малады, але чамусьці сівы мужчына:

— Я, ведаеце, Міляновіч буду, са Слоі Шудзялаўскай гміны, — пачаў ён. — Я пазнаў, што вы беларус, бо вы адразу спацелі, калі грымнула, во, беларуская мова... Цяпер і я ўжо беларус толькі хатні, жывучы ў блоках, але калісьці, калі жыў я ў Слоі і Слоя жыла, не была вёскаю адно старых, дажываючых свой век, слаянскія дзяўчаты і хлопцы выбралі былі мяне старшынёю гуртка Беларускага таварыства. Даўно было, гурток той дарэшты раз'ехаўся па блоках, але недзе ў сямідзесятым годзе ставілі мы п'есу, такую камедыйку, памятаю, „Старыя“ называлася, Яновіча, ці каго... Я бойка выступіў у ёй, здаецца, у

(Працяг на стар. 6)

## НЕ БІЦЬ, А ГАВАРЫЦЬ

Хата ў лесе, поле ў лесе — гэта Вітава. Куды ні глянь — навокал Белавежская пушча.

Дзядзька Васіль Малмышка як бы чакаў нас, прысеўшы ў кукішкі ля свайго плоту. Калі мы сказалі, што з „Нівы“, ён з незвычайнай сардэчнасцю ўвёў нас на чысты панадворак, паказаў лавачку пад вялізнай грушай, каб там сесці, а сам пайшоў хуценька „па дакументы“.

„Якія дакументы“, — падумала я. Але вось выйшаў дзядзька і, прысеўшы, пачаў паказваць і расказваць пра сваё жыццё: што ён член ЗСЛ, быў павятовым радным, што належаў да камісіі публічнай бяспекі пры Павятовай радзе, быў дзеячом ГСу, быў аж пяць дзён на II спулдзельчым кангрэсе ў Варшаве ў 1956 годзе (мандат дэлегата захаваўся), у 1981 г. атрымаў сярэбраны знак „Заслужаны для Беласточчыны“ і на канец — на 22 ліпеня 1984 года атрымаў медаль 40-годдзя Народнай Польшчы, з подпісам самога старшыні Рады Дзяржавы.



**На лавачцы пад грушай на сваім панадворку ў Вітаве Васіль Малмышка расказвае пра сваю працу.**

Як жа дарагія Васілю Малмышку гэтыя дакументы, бо яны даказваюць, што і ён у свой час нешта значыў і патрэбны быў людзям, рабіў добрую работу, развіваў сваю зямлю, узнімаў грамадска-палітычнае і гаспадарчае жыццё і вёскі, і павета, і нават усяе краіны.

Яму цяпер 87 гадоў. Паказаўшы ўжо ўсе свае білеты і медалі, дзядзька Васіль з выразным гонарам закончыў: „Я і дзяцей выхаваў у такім духу, каб служылі добра дзяржаве, не ішлі супраць сваёй улады, былі працавітымі і сумленнымі і не забывалі, адкуль выйшлі. І мы не саромеемся, што выводзімся з-пад беларускай саламянай страхі“.

Усё жыццё В. Малмышка з жонкаю Верай жылі і працавалі на гаспадарцы ў Вітаве. Толькі ў бягучым годзе здалі зямлю за рэнту, бо ўжо сіл не хапала. „Зямлю рабіць у нас цяжка, ад звярыны не збавіцца“, — заўважае ён.

Пытаю, чаму так доўга ён трымаўся той зямлі.

 

# УСЁ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

(Працяг са стар. 1)

членаў, а таксама рабочы савет і прафсаюзная арганізацыя, у якой гуртуецца 911 чалавек, у тым ліку 723 рабочых і 65 чалавек інжынерна-тэхнічных кадраў. Прафсаюзы ўзначальвае Уладзімір Цілюлька. Ён жа з'яўляецца і членам праўлення Сакольскага аддзела БГКТ.

Праўленне прафсаюзаў складаецца з дзесяці чалавек. Яно стварыла шмат камісій, якія займаюцца рознымі дзялянкамі фабрычнага жыцця, звязанага непасрэдна з чалавекам, з яго штодзённай працай і заняткамі. Вось, напрыклад, рабочая вопратка. Яна ж аднолькавая для жанчын і мужчын. А жанчынам яна вельмі часта не падыходзіць, нязручная. Што ні гавары — фігура ўсё ж такі іншая! Ды й наогул рабочая вопратка даволі нізкай якасці і хутка зношваецца. Гэтыя справы вельмі часта закранае Ежы Бедзь, які стаіць на чале камісіі працы прафсаюзаў (працуе інспектарам па справах бяспекі і гігіены працы).

Аднак найбольш увагі прысвячае праўленне прафсаюзаў сацыяльным справам. У распараджэнні прадпрыемства вялікі сацыяльны фонд — 20 млн. 20 тысяч зл. Прафсаюзы імкнуцца да таго, каб грошы былі выкарыстаны разумна і ашчадна. Шмат іх прызначаецца на адпачынак. Напрыклад, сёлета са стацыянарнага адпачынку скарысталася 140 чалавек, а з турыстычнага — 435. Выязджала на адпачынак таксама 130 дзяцей. Прафсаюзы арганізоўваюць таксама адпачынак у вольныя ад працы дні. Вось ужо другі год наладжваюцца экскурсіі ў Аўгустоў, куды рабочыя едуць цэлымі сем'ямі. Найбольш усім хочацца плаваць суднам.

На прадпрыемстве будаўнічай сталяркі наладжваюцца розныя цікавыя мерапрыемствы. Штогод адбываюцца навагоднія балі за вельмі нізкую плату, урачыстасці з нагоды Дня будаўнікоў, Міжнароднага свята жанчын. На навагоднія падарункі пад ёлку для дзяцей было выдадзена 770 тыс. зл., а з нагоды Дня дзіцяці — 500 тыс. зл.

А калі ты захочаш будаваць аднасямейны домік, прафсаюзы і тут табе дапамогуць і прыдзеляць пазыку да 15 прац. яго вартасці. Можна ўзяць пазыку на рамонт кватэры (да 100 тыс. зл.), на рамонт аднасямейнага дома — да 150 тыс. зл., а на капітальны яго рамонт — да 400 тыс. зл.

З сацыяльнага фонду прафсаюзы дафінансоўваюць спартыўна-рэкрэацыйную дзейнасць, у тым ліку дзейнасць секцыі вудзільшчыкаў і спартыўны клуб „Парус". Уносяць яны таксама фінансавы ўклад у агароды, якія дае прадпрыемства свайму рабочаму калектыву. Камісія па справах сталовай клапоціцца пра тое, каб былі добрыя абеды, каб у сталовай быў парадак, каб адпаведна падрыхтоўваліся рэгенерацыйныя стравы.

Не забываюць прафсаюзы і аб культурна-асветнай дзейнасці. Цікавяцца працай бібліятэкі, купляюць білеты на эстрадныя выступленні, у тэатр, а падчас выплат арганізуецца продаж кніжак і школьных падручнікаў.

На прадпрыемстве існуе радыёвузел, які паведамляе аб жыцці прадпрыемства, аб працы розных клубаў пры прадпрыемстве, у тым ліку і аб клубе донараў. Радыёвузлом займаецца Багуслаў Дашута, дэлегат X з'езда ПАРП. У апошні час радыёвузел павялічыў колькасць інфармацыйных перадач. Справа ў тым, што прадпрыемства рыхтуецца ўрачыста адзначыць 15-ую гадавіну свайго існавання. Праўда, роўная гадавіна ўжо мінула некалькі месяцаў назад, але святкаванне яе наладжваюць на дзень будаўнікоў. Для доўгагадовых працаўнікоў рыхтуюцца розныя ўзнагароды. На стадыёне будзе арганізаваны вялікі фэстын, будзе таксама акадэмія, забава. Ужо вядуцца парадкавыя работы, будзе адрамантаваны пакой памяці Сяргея Прытыцкага, імя якога носіць прадпрыемства.

**Міхась Хмялеўскі**

## „ВОСЕНЬ '87"

Усіх, хто яшчэ не забыў пралета і хоча прадоўжыць канікулы, сардэчна запрашаем на Другі рэйд беларускіх вучняў **„Восень '87"**. Пройдзе ён па Белавежскай пушчы 2—4 кастрычніка г.г.

Збіраемся 2 кастрычніка (пятніца) у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы ад 17.00 гадзіны.

Маршрут рэйда:

3 кастрычніка (субота) раніцай з Гайнаўкі ў Арэшкава едзем цягнікам, затым ідзем: Арэшкава — Лозіцы — Тапіла — Доўгі Брод.

4 кастрычніка (нядзеля) паход з Доўгага Брода ў Вітава, дзе і закончыцца рэйд.

**Арганізатары**



# У ЗУБАВЕ

Спулдзельня прадукцыйная ў Зубаве — то найперш гусі і куры — гадоўля на мяса, зразумела. Каля 19 тысяч курэй-бройлераў спулдзельня прадала ў жніўні. Зарабіла 6 мільёнаў злотых. На пляцы мы засталі 2 тысячы штук гусей. „Ой, цяпер яны брыдкія, — казалі нам хлопцы Юрка Раманюк — аграном і Грыша Кананюк — заатэхнік, калі Яніна пачала настаўляць фотаапарат, — бо іх толькі што бабы паскублі".

Ад кожнай гусі трэба ўзяць тры дэкі пер'я і такім чынам з усіх гусей наскублі цяпер 80 кг. За аскубанне адной гусі плаціцца 35 зл., а спрытная баба паскубе за дзень 150-170 гусак. На пер'і, аднак, спулдзельні заробак невялікі, бо слаба плаціць за яго скупшчык.

Спулдзельня абрабляе таксама 300 га зямлі, сеюць пшаніцу, буракі, ячмень, у асноўным на кармы.

Нас прасілі прыехаць у Зубаўскую спулдзельню праз 6 тыдняў. Будзе новая партыя курэй...

**(вв)**

**Фота Я. Чэрнякевіч**



**Зубаўскія паскубаныя гусі адпачываюць на сонцы, рыхтуюцца, бедныя, стацца прысмакам чалавека.**

---

Дзядзька хвіліну маўчыць, усміхаецца, а потым гаворыць:

— Бо бачыце, мне усё так здавалася, што калі я кіну зямлю, то Польшча будзе без хлеба (!).

Што ж, не магу паўстрымацца ад ацэнкі: у гэтай свядомасці сваёй беларускай чалавечнасці — веліч Васіля Малмышкі!

Выгадавалі Васіль з Вераю васьмёра дзяцей, па-роўну: чатырох сыноў (Іван, Пётр, Павел, Міхал) і чатыры дачкі (Ніна, Вера, Тамара, Ірына). З усяе васьмёркі не жыве Пётр. Працаваў у Гданьску ратаўнікам, а сам выплыў у мора далёка на нечым і ўтапіўся. Сэрца маці і цяпер уздрыгвае. Яна, якая дагэтуль скромна і ціха сядзела збоку, адзываецца:

— Напісаў пісьмо: не плач мама, я не ўтаплюся. А пад Пятра ўтапіўся.

А дзядзька Васіль працягвае:

— Мы паехалі туды і там яго пахавалі, помнік паставілі.

Глядзім на фатаграфію прыстойнага, маладога мужчыны. Гэта сын Павел, маёр, у Вроцлаве закончыў пяцігадовую вайсковую вышэйшую школу, цяпер выкладае ў Катавіцкай палітэхніцы.



**— Каб мы зналі, што вы прыедзеце, то падрыхтаваліся б, — клапоціца дзядзька Васіль. Але цётка Вера (82 гады) толькі што прынесла з лесу вядро чарніц і рыхтуе з іх нам смачны пачастунак.**

Сам дзядзька Васіль невысокі, хударлявы і толькі вочы свецяцца жывой, нязгаснай інтэлігенцыяй.

— Дзеці ў вас такія стройныя!

— Так, дзеці мае ўсе стройныя. Я толькі ў сям'і наўродны, але баба мая красуня, па ёй пайшлі дзеці.

Усе васьмёра павывучваліся. Пяцёра закончыла Беларускі ліцэй у Гайнаўцы.

Аб гэтым дзядзька інфармуе з гонарам. У яго ўжо 13 унукаў і 3 праўнукі.

— Я сваёй сям'ёй, — кажа, — задаволены. Як папрыязджаюць зяці, сыны, — каб я пачуў ад іх вульгарнае слова? Не пачую. Не лаюцца. Людзі гавораць: вашы дзеці — добрыя людзі. Я цешуся, што хваляць іх, паважаюць, што дзеці ў мяне ветлівыя.

— А як выхоўвалі? Можа нейкую тайну маеце?

— Я такую педагогіку заставаў, што дзіцяці нельга біць, а трэба з ім гаварыць. Біць дзіцяці ў ніякім выпадку нельга. Трэба дапільнаваць яго, зразумець і вытлумачыць.

Адзываецца гаспадыня:

— Багатая наша сям'я.

І мы разумеем, што яна мае на думцы багацце духоўнае сваёй сям'і. Як даведаліся, матэрыяльнага багацця Малмышкі ніколі не мелі ды і не ганяліся за ім. Зрэшты, выхаваць васьмёра дзяцей, вывучыць усіх, „вывесці ў людзі" — кожны ведае, што гэта значыць. Быў такі час, што і галаднавата было, і хадзілі дзеці зімою ў школу ў Арэшкава ў зробленых бацькам дзеравяках, да якіх неймаверна ляпіўся снег і ішлося як на дыбах.

А цяпер? Цяпер застаецца радавацца. І Васіль Малмышка, спаглядаючы ў акно на лес, дзе змагаліся партызаны і мясцовыя ППРаўцы, якіх і забівалі тут ворагі, у глыбокім задуменні і разам неяк вельмі цёпла кажа:

— Цяпер галоўнае, каб быў мір!

**Вера Валкавыцкая**

Фота Яніны Чэрнякевіч



 

 

# БЕЛАРУСІКІ

*1966—1986*


Abecedarski Ławrencij, Biełorussija i Rossija. Oczerki russko-biełorusskich swiaziej wtoroj połowiny XVI—XVII w. Mińsk 1978. Rec. Wisner Henryk, *Przegląd Historyczny* 1979, z. 2 s. 358—359.

Abezgauz Załman, 'Razwitije promyszlennosti i formirowanije proletariatu Biełorussii wo wtoroj połowinie XIX wieka. Mińsk 1971. Rec. Topolska Maria Barbara, *Z Pola Walki* 1972, nr 3, s. 258—262.

Abramowicz Ryszard, Ze znakiem żubra. (Mińska Fabryka Samochodów). Korespondencja z ZSRR. *Przegląd Techniczny* 1973, nr 6, s. 11, il.

Adamowič Aleś, Bryl Janka, Kolešnik Uładzimir, „Ja z wogniennaj wioski...". Mińsk 1975. Rec. Moskwa Jacek, *Kierunki* 1975, nr 36, s. 11, il. Monkiewicz Waldemar, Kowalczyk Józef, *Biuletyn Głównej Komisji Badania Zbrodni Hitlerowskich* t. 28, 1978, s. 266—267.

Adamowič Ja. M. Mikratapanimičnyja nazwy. Mińsk 1971. Rec. Woźny M., *Onomastica* R. 18, 1973, z. 1—2, s. 327 — 328.

Adamski Jan, Po drogach Białorusi. *Życie Literackie* 1976, nr 41, s. 7—8, il.

Adamowiciute I. E., K problemie wzaimootnoszenija litowskich biełorusizmow i polonizmow. *Slavia Orientalis* 1980, nr 1/2, s. 7—12.

Aksamitaŭ Anatolij, Bielaruskaja frazieałohija. Mińsk. 1978. Rec. Lewicki Andrzej Maria, *Literatura Ludowa* 1980, nr 1/3, s. 123—126; Olechnowicz M., *Slavia Orientalis* R. 28, 1979, nr 4, s. 513—515; Pietek H., *Rocznik Slavistyczny* t. 41, 1981, cz. 1, s. 123—125.

Aksamitov Anatolij, Obriad i piesnia kak istocznik obrazowanija frazieołogiczeskich jedinic biełorusskogo jazyka. *Acta Baltico-Slavica* t. 16, 1984, s. 21—31, rys.

Aksamitov A. S., Biełorussko-polskije izofraziemy. *Slavia Orientalis* 1980, nr 1/2, s. 13—16.

Aleksandrovič S. C., Wolnadumca zpad Niaswiža Alaksandr Niezabytouski. Z historyi biełaruska-polskich litaraturnych i hramadska-palitycznych suwiaziej u 40-ja hody XIX stahoddzia, Mińsk 1975. Rec. Łopuszyński Bolesław, *Przegląd Historyczny* T. 68, 1977, z. 1, s. 192—193.

Alexandrowicz Stanisław, Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku. *Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych* t. 27, 1965, s. 35—67, tab.

Alexandrowicz Stanisław, Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. Fragm. pracy. *Acta Baltico-Slavica* t. 7, 1970, s. 47—108, tab., mapa.

Alexandrowicz Stanisław, Nowe źródło ikonograficzne do oblężenia Połocka w 1579 r. *Kwartalnik Historii Kultury Materialnej* 1971, nr 1, s. 3—29, il., rys.

Aleksiejew L. W., Połockaja ziemla. Oczerki istorii Siewiernoj Biełorussii w IX—XIII ww. (Moskwa 1966). Rec. Wasilewski Tadeusz, *Kwartalnik Historii Kultury Materialnej* 1968, nr 2, s. 373—378; Sztychow G. B. *Acta Baltico-Slavica* t. 6, 1969, s. 278—282.

Andrejew Piotr, Przyjaźń w walce. Warszawa 1976. Rec. Baranowska Agnieszka, *Nowe Książki* 1977, nr 10, s. 13—14; (k.k), *Za Wolność i Lud* 1977, nr 20, s. 14—15; Grabski Władysław Maria, *Argumenty* 1977, nr 4, s. 14; *Pokolenia* 1977, nr 2, s. 230—236; Hanin Zbigniew, *Perspektywy* 1977, nr 3, s. 28, il.; Jerszow Leonid, Kononowicz Maciej, *Kierunki* 1977, nr 1, s. 5.; Olbrych Wiesława, *Literatura* 1977, nr 7, s. 14, il.; Wencel Barbara, *Oświata i Wychowanie ABC* 1977, nr 1, s. 35—36.

Aniczenko Włodzimierz, Polonizmy w zabytkach białoruskich i ukraińskich XVI—XVII wieku. *Slavia Orientalis* 1969, nr 3, s. 325—332.

Antologia poezji białoruskiej. Oprac. Jan Huszcza. Wrocław 1978. Rec. Stus Teresa, *Slavia Orientalis* 1981, nr 3, s. 377—381; Galster Bohdan, *Nowe Książki* 1979, nr 11, s. 24—26. il.; Stus Teresa, *Ruch Literacki* 1979, z. 6, s. 487—489; Staniszewski Andrzej, *Poezja* 1980, nr 3, s. 133—136.

Antoniuk L. A., Kultura tekstu naukowego a normalizowanie terminologii naukowej w języku białoruskim. Tł. Małgorzata Leczycka. *Prasa Techniczna* 1985, nr 1, s. 23—24.


**P.C.**

**(Працяг са стар. 4)**

# ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

ролі Чаруся, і зусім не горш, чым хвалёны Эдзік Рудніцкі з суседніх Сухінічаў у „Люцынцы-інжынерысе". У наш Астровак на агляд беларускіх тэатральных калектываў ездзілі, другое месца на ім прыдбалі, „Ніва" і мой здымак друкавала. „Ніву" я чытаю цэлы час, сына падвучваю ёю, ведаеце, малога так з месца не зробіш беларусам, калі ў школе ўсё небеларускае.... Я пайшоў на хітрасць: прасіў свае хлапчаня купляць мне „Ніву" ў кіёску „Руху", а карысць ад таго падвойная — ён ад малога прывучыўся публічна прасіць беларускую газету, а затым і зацікавіўся, якую гэта газету яго бацька гэтак заядла хоча мець дома. Сын заўсёды падгледжвае бацьку, як дачка матку, і ён мала-памалу ўзяўся сам пачытваць „Ніву", несучы яе мне ад кіёска, што ў канцы нашай местачковай вуліцы ў ПГРскім Шудзялаве. Малое хоча ўсё ведаць, і час пытанняў у дзіцяці вельмі важны, бо калі яно дарасце, ужо не будзе пытаць, само на ўсё будзе мець адказы. І ад майго сыночка пасыпаліся на мяне пытанні, вядома, звязаныя з тым, чаго начытаўся ў „Ніве". І гэта была мая ўдача як беларуса. І вырастае ў мяне сын, духоўна не чужы, не з іншага свету... **(ся)**

# ПАРНАСІК

чытальніцкай мітусьнёўка на негарантаваных палях

**ЛЕТА**

Настала летняя пара,
Усе птушкі заспявалі,
Касцы выйшлі на сенажаць.
Залацішча ўсё кругом.
Весела!
Сяджу на ніве —
Не магу налюбавацца летам.
Цудоўная пара!

**В. Дзенісюк**



**„МАНАСТЫРСКІЯ НАПЕВЫ"**

Нядаўна ў артыкуле „Манастырскія напевы" („Ніва" № 33) мы пісалі пра хор Праваслаўнай Духоўнай акадэміі з Ленінграда, які выступіў у VI Днях царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Прадстаўляем на здымку гэты невялікі, але добры хор з Ленінграда ў час конкурснага выступлення ў Гайнаўскай царкве.

**(вв)**

Фота В. Завадскага

# ШЛЯХАМ ГАДОЎ

У тым часе, калі вялікая княгіня Кейстуціха, Бірута, гераічна адбівалася ў Бярэсці ад наступу свайго роднага зяця, князя чэрскага Януша, вялікі князь Кейстут пусціў па Жмудскай зямлі Пагоню з весткай, што Ягайла і іншыя Альгердавічы прадаліся крыжакам самі і прадалі ўсю дзяржаву. Паводле падлікаў гісторыка М. Космана, дзевяць тысяч ваяўнікоў, гатовых ратаваць Айчыну, згуртавалася пры старым сваім князі. На тыя часы гэта была вялікая армія. Таксама Вітаўту ўдалося сабраць немалую сілу з Гарадзеншчыны і, Слонімшчыны. Бацька і сын у канцы ліпеня 1382 г. аб'ядналі свае арміі каля ўпадзення Віліі ў Нёман, там пераправіліся „з войскам і пайшлі на Трокі і, прыйшоўшы, акружылі Трокі", — падае „Хроніка Быхаўца". Аднак з ходу крэпасці ім узяць не ўдалося.

Альгердавічы пільна сачылі за дзеяннямі свайго дзядзькі і стрыечнага брата і таксама не драмалі. Ягайла сабраў з Віцебшчыны, Полаччыны, Навагрудчыны і іншых беларускіх земель вялікую армію каля Вільні, напрасіў дапамогі лівонскіх (інфлянцкіх) і прускіх рыцараў. Трокі да абароны належна падрыхтаваў і ўзначаліў яе Скіргайла. Перавага выразна была на баку Альгердавічаў і гэта, несумненна, вырашыла далейшы ход падзей. Аднак аддайма голас адной з найбольш поўных крыніц нашай гісторыі — „Хронікі Быхаўца".




„І вось ужо прыйшлі на месца бітвы, князь вялікі Кейстут са сваім сынам князем Вітаўтам, супраць вялікага князя Ягайлы. Як сышліся войскі на тры ці на чатыры стрэлянні (адно стрэлянне — каля 70-80 метраў, М. Г.), прыбеглі князі і баяры да вялікага князя Ягайлы ды войска вялікага князя Кейстута і сталі пытаць вялікага князя Вітаўта, каб паразмаўляць з ім. І пачалі гаварыць вялікаму князю Вітаўту: „Князь вялікі Ягайла паслаў нас да цябе, каб ты пагадзіў нас з бацькам сваім і мы валодалі б сваім, а вы — сваім. Ды каб бою паміж намі не было і кровапраліцця не ўчынілася. Ты б паехаў да брата свайго вялікага князя Ягайлы, а мы ў тым прысягу даём, што ты без перашкодаў вернешся ў свае войска. Гэтак ладна ўсё паміж намі закончылася б". Вялікі князь Вітаўт ім адказаў: „Прысягу вашу прымаю, аднак няхай таксама князь Скіргайла да нас прыедзе ды прысягне, тады я паеду". І яны паслалі да князя Скіргайлы. Князь Скіргайла таксама прынёс прысягу вялікаму князю Вітаўту, як і яны. Тады князь вялікі Вітаўт паехаў да вялікага князя Ягайлы, да яго войска. Палкі ж у тым часе стаялі з абодвух бакоў, паміж сабою нічога не пачынаючы. Стаў вялікі князь Ягайла прасіць Вітаўта, каб ён ваюючых памірыў і кровапраліцця не было. Князь вялікі Вітаўт узяў прысягу з вялікага князя Ягайлы за свайго бацьку, што бацька яго, вялікі князь Кейстут, калі прыедзе на спатканне, то і назад без перашкодаў ад'едзе. Ды да таго сказаў вялікі князь Вітаўт вялікаму князю Ягайлу: „Яшчэ, браце, пашлі Скіргайлу, каб ён паехаў і мы разам прысягнем майму бацьку, што ён бяспечна прыедзе і назад ад'едзе, пры



 

# ЛАГЕР, У ЯКІМ НЕ П'ЮЦЬ

Той, хто наведваў у ліпені ці ў жніўні Белавежу, напэўна прыкмеціў у некаторых вокнах гасцініцы „Іва“ флагі з надпісам „Ювэнтур“. Гэта тут змяшчаўся „штаб“ маладзёжнага лагера, які наладжваюць у мястэчку штогод, пачынаючы ад 1983 г. Арганізоўвае яго Ваяводскае бюро маладзёжнага турызму „Ювэнтур“ з Беластока, а праводзіць Турысцкі клуб ЗСМП ПТТК „Датаяна“ з Варшавы.

Лагер гэты — даволі цікавае мерапрыемства. Адбываецца ў ім выхаваўчая работа па ахове прыроды, моладзь знаёміцца з прыродазнаўствам. Ужо другі год як рыхтуюць у іх арганізатараў турызму ПТТК для дзейнасці ў асяроддзі школьнай моладзі — членаў ЗСМП.

У лагер з'язджаюцца вучні сярэдніх школ з усяе Польшчы. Гэта члены ЗСМП і ПТТК, якія маюць схільнасць да арганізоўвання турызму. Лагер падзяляецца на чатыры змены. Дагэтуль прымала ў ім удзел больш васьмісот асоб.

Апекуны лагераў наладзілі добрае і плённае супрацоўніцтва з мясцовым Аддзелам ПТТК, дырэкцыяй Белавежскага нацыянальнага парку, а таксама з Бюро турызму ВТП, якому падпарадкаваны турысцкі комплекс „Іва“.

Заняткі адбываюцца па лініі тэорыі і практыкі. Лекцыі чытаюць, між іншым, навуковыя супрацоўнікі парку — др інж. Часлаў Аколаў, мгр. інж. Анджэй Антчак, дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку мгр. інж. Станіслаў Куявяк, работнікі Аддзела ПТТК — Вольга Байко і Раман Касцялецкі. Акцэнтуюцца пытанні турызму ды культурна-асветнай дзейнасці. Удзельнікі лагераў наведваюць таксама запаведнік, зуброўнік, прыродазнаўчы музей, робяць паходы турысцкімі шляхамі ў пушчы. Выязджаюць у Гайнаўку, Бельск-Падляшскі, Беласток. Пабывалі на так званым Татарскім шляху (у Крушынянах, Багонніках). Глядзяць фільмы пра Белавежскую пушчу. Шмат перажыванняў у іх у сувязі з рыхтаванымі імі самімі лялечнымі паказамі, спектаклямі пантамімы, вечарамі паэзіі дэкламацыямі прозы, вогнішчамі. Гэта спатрэбіцца потым кожнаму з іх як будучаму арганізатару турызму. Для ўдзельнікаў лагера забаронены спіртныя напіткі, нават слабыя. Той, хто парушыць гэту забарону, вымушаны пакінуць гэты лагер. Такія выпадкі, хоць вельмі рэдкія, бываюць аднак.

Добрай традыцыяй гэтых лагераў лічыцца звычай прысвячаць адзін дзень рабоце ў рамках грамадскага пачыну, пераважна дзеля добрага ўпарадкавання Белавежы.

На заканчэнне адбываюцца экзамены. Той, хто здасць экзамен, атрымлівае адпаведныя значкі і легітымацыі маладзёжнага арганізатара турызму.

Ад пачатку арганізоўвання лагераў апякуецца імі член Прэзідыума Камісіі турызму і адпачынку Галоўнага праўлення ЗСМП Тадэвуш Сядлецкі. Ён заснаваў клуб „Датаяна“ ў 1980 годзе. Гуртуецца ў ім тая моладзь, у якой склаўся цяжкі жыццёвы лёс, г.зн. дзеці, у якіх распаліся сем'і, або інваліды. У ім ужо чатырыста пяцьдзесят удзельнікаў (з Варшавы і наваколля). Старшыня клуба — Дарыуш Назарчык, студэнт трэцяга курса варшаўскай Галоўнай школы планавання і статыстыкі. Сядлецкі і Назарчык, а з імі яшчэ адзін студэнт — Марэк Бондар правялі сёлетні лагер у Белавежы.

**Пётр Байко**

Фота Войцеха Рынажэўскага



**Тадэвуш Сядлецкі навучае пантаміме.**



**Практычныя заняткі былі самымі прыемнымі.**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na artykuł opublikowany w nr 30 tygodnika „Niwa”, dotyczący scalania gruntów Spółdzielni Rolniczej w Pawłach, gm. Zabłudów Wydział Geodezji i Gospodarki Gruntami Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku wyjaśnia, co następuje.

Zgodnie z opracowanym i zaakceptowanym przez Wojewodę Białostockiego planem prac scaleniowych do 1990 r. planuje się dla potrzeb Spółdzielni Rolniczej w Pawłach scalenia gruntów na łącznym obszarze 850 ha. Do realizacji w cyklu dwuletnim 1987—1988 przyjęto zadanie scalenia gruntów w obrębie wsi Ciełuszki i Dawidowicze, o powierzchni 750 ha. W 1989 r. planuje się scalenia gruntów o powierzchni 100 ha, położonych we wsi Ostrówki.

Opracowanie powyższego planu poprzedzone zostało wcześniejszymi uzgodnieniami ze Spółdzielnią Rolniczą w Pawłach co do potrzeb i zakresu prac scaleniowych.

W trakcie realizacji planu obszar gruntów poddanych scaleniu zostanie ustalony dokładnie, w dostosowaniu do faktycznych potrzeb gospodarstwa spółdzielczego. Wszelkie ewentualne zmiany w tym przedmiocie poprzedzone zostaną konsultacją ze Spółdzielnią Rolniczą w Pawłach.

Grunty położone we wsi Pawły zostały kompleksowo scalone dla potrzeb Spółdzielni w 1979 r. W okresie późniejszym kompleks ten sukcesywnie powiększono drogą drobnych zamian.

Wszelkie inne potrzeby Spółdzielni w zakresie scalenia gruntów przejmowanych z PFZ będą szczegółowo analizowane i realizowane w uzgodnieniu z jednostką.

Z-ca dyrektora Wydziału
**mgr inż. Romuald Ejsmont**

## КЛУНЯ ПАПЛАЎСКІХ

У Паплаўскіх на няшчасце ў мураванай клуні зваліўся дах. Выбегла сям'я, лямантуе: што цяперака будзе?! Цётка пачала вішчаці, хацела ўсё сяло на ногі падняці. Выйшаў дзядзька хворы, стаў на ганку хаты, угаворвае жонку, што няма вялікай страты. Жонка яго — крыклівая кабета, выганяе яго з хаты. Хлопец іхні стаў сям'ю суцяшаці: усё будзе добра, толькі перастаньце крычаці.

**Валянціна Дзенісюк**

тым князь Скіргайла дасць прысягу ад твайго імя“. І князь вялікі Вітаўт з князем вялікім Скіргайлам паехалі ў войска вялікага князя Кейстута. Князь (Вітаўт) прысягнуў бацьку свайму ад імя вялікага князя Ягайлы, а князь вялікі Скіргайла прысягнуў ад вялікага князя (Ягайлы) і ад самога сябе. Тады князь вялікі Вітаўт з бацькам сваім князем вялікім Кейстутам абодва паехалі ў войска да Ягайлы, надзеючыся на тыя прысягі. Аднак князь вялікі Ягайла парушыў тыя прысягі, кажучы: „Паедзем у Вільню і там справу закончым“. Тым часам войскі, нічога не пачынаючы, раз'ехаліся. Як толькі яны прыехалі ў Вільню, дык князь вялікі Ягайла дзядзьку свайго князя вялікага Кейстута закаваў, у Крэва выслаў ды ў вежу пасадзіў. Князя ж вялікага Вітаўта пачаткова пакінуў у Вільні. Там, у Крэве, пятае ночы князя вялікага Кейстута задушылі каморнікі вялікага князя Ягайлы, адзін называўся Прокша, што яму ваду падаваў, былі таксама іншыя: брат Мостаў (з боку дапісана: „крыжак“), Кучук ды лісіца Жыбенцяй. Такі стаўся канец вялікаму князю Кейстуту“.

Як жа ж такое магло стацца? Гэтае пытанне хвалюе ўжо 600 год усіх тых, хто цікавіцца багатай гісторыяй Старабеларускай дзяржавы, і кожны па-свойму спрабуе тлумачыць тое дзіўнае здарэнне. Мабыць, дзівараўся і сам аўтар „Хронікі Быхаўца“, калі гэтак падрабязна і вобразна расказваў пра тое, як Кейстут з Вітаўтам дабраволньна пайшлі ў Альгердавічаву няволю і цалкам здаліся на іхнюю ласку і няласку. Каму ж як каму, але Кейстуту нельга адмовіць у тым, што ўсё сваё доўгае і ваяўнічае жыццё быў надзвычай прадбачлівым і асцярожным чалавекам, асабліва ў адносінах да крыжакоў і сваіх пляменнікаў Ягайлы і Скіргайлы, небеспадстаўна падазраючы, што яны ўсе разам на яго „голаў ліха рыхтуюць“. Што ж схіліла старога ваяўніка на такі неразважлівы, згубны крок?

Напэўна бачыў ён вайсковую перавагу сваіх праціўнікаў. Дык жа ж колькі разоў у сваім жыцці апынаўся ён у яшчэ горшых абставінах, але ніколі не ішоў да сваіх ворагаў з пакаяннем! Мо сапраўды паверыў у рыцарскі гонар сваіх пляменнікаў? Сам жа быў недасяжным узорам рыцарскасці і вернасці дадзенаму слову. Можна таксама дапусціць і тое, што старэнькі Кейстут (яму ўжо было каля 80 год) проста быў ужо стомлены жыццём і цалкам здаўся на сына і пляменнікаў, лічачы, што яго супраціўленне без сэнсу, вядзе яго да братабойчай вайны і знішчэння краіны. Магчыма, разлічваў на свой аўтарытэт ды на тое, што пляменнікі ўшануюць яго старасць.

Не ўшанавалі...

Ці адказнасць за смерць Кейстута падае толькі на Ягайлу? Не, не толькі. Шмат каму перашкаджала асоба старога князя. І то перш за ўсё крыжакам, якія ненавідзелі яго ўсімі фібрамі душы, абзывалі непрыстойнымі мянушкамі. Тое, што сярод яго забойцаў летапісец называе „брата Мостава“, не было выпадковасцю — яны маглі быць ініцыятарамі гэтага забойства. Такое меркаванне знаходзіць пацвярджэнне і ў тым, што крыжакі распаўсюджвалі па Еўропе звестку пра самагубства Кейстута. Нават слабей паінфармаваныя крыжацкія храністы з асабістым пераканаманнем пішуць пра самагубную смерць Кейстута.

Як найхутчэйшым сыходам з палітычнай сцэны Кейстута былі зацікаўлены таксама ўсе Альгердавічы, перш за ўсё тыя, самаволю якіх суняў стары князь: Ягайла-Якаў, Скіргайла-Іван, Карыбут-Дзмітры, а таксама аўдавеўшая, пасля пакарання ім смерцю Вайдзілы, Анна-Данута Альгердаўна ды іхняя маці — вялікая княгіня Ульяна.

Пра гэтую заядлую варожасць Альгердавічаў да бацькі добра ведаў Вітаўт, дасканала ўсведамляў яе небяспеку і для Кейстута і для сябе самога і, урэшце, для ўсяе дзяржавы. Ён з усіх сіл намагаўся змякчыць гэтыя супярэчнасці, суняць нянавісць, замірыць бацьку з пляменнікамі. На жаль, вынікі яго намаганняў аказаліся трагічнымі і для яго самога.

Цела Кейстута перавёз у Вільню адзін з самых заядлых ворагаў нябожчыка, Скіргайла. Пад Вільняй, на славутым „жэглішчы“ было наладжана ўрачыстае спаленне астанкаў вялікага князя. На стусе разам з ім згарэла яго зброя, дарагія ўборы, любімыя сокалы, найлепшыя коні, найвярнейшыя слугі — усё па колішняй традыцыі. Не было толькі на стусе палонных крыжакоў — пажыццёвых смяротных ворагаў вялікага Кейстута.

**Мікола Гайдук**

(Працяг са стар. 9)




А ножачкі ж мае быстрыя,
Зарань жа вы стаміліся...
А-а!..

Хімчына бабка, выйшаўшы з варот і ўбачыўшы Лаўрыка, які стаяў, прытуліўшыся спіною да **шула**, спагадліва пагладзіла яго па шчацэ і сказала:

— Не будзе ўжо табе, Лаўрык, з кім бегаць у школу...

І расчулены Лаўрык даў поўную волю сваім слязам.

І хоць ён так і не ўбачыў той, другой Хімачкі, што ляжала ў труне, усё ж цьмяна здагадваўся, што яна ўжо нічога агульнага не мае ні з ім самім, ні з той Хімачкай, з якой ён яшчэ нядаўна бег са школы, распырскваючы па вуліцы першыя вясновыя лужыны.

Лаўрык не пайшоў на могілкі. Пастаяўшы ля чужых **весніц**, ён вярнуўся дадому. Але, не заходзячы ў хату, выйшаў за **малады вішняк**, дзе ў зацішку ўжо прыпякала сонца, і стаў глядзець у поле.

На ўзгорках, на сонечных **прыгрэвах** чарнела зямля. Спярша Лаўрык падумаў — гэта ад таго, што ён доўга плакаў, у **яго ваччу зыбаецца** нейкая сіняя смуга, але потым зразумеў, што гэта ідзе цяпло з раллі, якое там сабралася за зіму, калі зямля спала. Цяпер яна прачыналася, гэта было яе дыханне.

Што ж адбылося ў свеце? Што змянілася з таго, што няма Хімачкі і ўжо ніколі не будзе? Нічога не змянілася.

Пяюць, заліваюцца жаваранкі. Жаласна крыкнула за ракой кнігаўка. Светлая хмарка наплыла на сонца, і ў твар Лаўрыку павеяла прыпрэчным халадком... Усё, як і было. Толькі няма Хімачкі. Па вясне прыйдзе лета, потым восень, а там і зіма. Разам з часам будзе расці Лаўрык, стане хлопцам, а Хімачка і астанецца маленькай, як і была, пакуль не знікне з памяці.

А калі б не Хімка, а я...“ — падумаў **неспадзеўкі** Лаўрык і жахнуўся, яшчэ не давёўшы да канца гэтае думкі.

**Паясненні (тлусты друк):**

**ці раз чуў** — чуў не адзін раз,
**угравала** — грэла, прыгравала,
**не скінуўся бот** — не зваліўся, не ўпаў з нагі,
**кастрыца** — цвёрдыя часткі ільну, якія вылятаюць з церніцы,
**у споднiках** — лёгкія нагавіцы,
**траха не пад** — трохі не пад, амаль што не пад,
**талая вада** — вада пасля расталага снегу або лёду,
**Хімачка** — пяшчотнае ад Яўфіміі,
**рупіла** — непакоіла, карціла,
**збянтэжаны** — разгублены, не ведае што рабіць,
**шула** — бервяно, замацаванае ў сцяне, шулы злучаюць бярвенні,
**цалёўкі** — дрэва на пабудову мералася ў цалях, чатырох, ці пяціцалёвыя бэлькі.
**зарань жа** — занадта рана, зарана,
**ля весніц** — каля дзверцаў у плоце, каля брамкі,
**малады вішняк** — вішнёвы сад,
**прыгрэвы** — месца, больш нагрэтае сонцам,
**у яго ваччу зыбаецца** — у яго вачах калышацца, дрыжыць,
**неспадзеўкі** — нечакана, неспадзявана.

**Заданне:**

*Як Лаўрык перажыў смерць Хімкі?*

*Апішыце і вы свой першы кантакт са смерцю, ці то чалавека, ці жывёлы, ці птушкі.*

*А можа чулі расказы пра смерць з часоў вайны? Запішыце адзін такі расказ.*

# РАЗМОВА З ПТУШКАЙ

Ішоў я сцежкай каля лесу. У ямачцы ўбачыў дзве шкарлупінкі маленькіх птушыных яечак. Яны былі колеру попелу з чорнымі кропкамі. Затрымаўся я над ямачкай і задумаўся — адкуль тут свежыя шкарлупінкі? Хто іх сюды ўкінуў? Калі падышоў бліжэй і нагнуўся, убачыў дзве рабенькія птушачкі, якія агравалі сваім пер'ем і целам маленькіх, яшчэ амаль голых, птушанят.

Адна птушачка хуценька схавалася са сваёй сямейкай у норку, другая ў іншую норку паслала толькі сваіх дзетак, а сама быццам, не баючыся мяне, стаяла на беразе нары. Падумаў я: „Чаму гэтая птушка не ўцякае ад чалавека? А можа мне гэта сніцца? Не, не сніцца“.

Я зразумеў. Птушка-мама хворая. Я з болем у грудзях узяў яе ў рукі і ласкава запытаў: „Бедная, хто цябе так пакрыўдзіў? У цябе ж выплывае вочка і скрыўлена галоўка!“

Птушка мяне зразумела... Я пачуў яе словы праз слёзы: „Мяне пакрыўдзіў хлопчык, які хадзіў з прашчаю. Я нясла мушку маім дзеткам, яны растуць і ім трэба многа ежы прыносіць. Я была змучана і прысела на сасновую галінку. І тады той школьнік, ён быў у школьным касцюме, прыцэліўся і папаў мне ў галаву. Далей я не помню, што было, толькі калі расплюшчыла вочы, убачыла, што ляжу ў траве і бачу толькі адным вокам ды галава мне страшна баліць. Дапаўзла я да сваёй хаткі і вось пакутую тут. Суседка крыху падкормлівае маіх дзетак разам са сваімі, але нам вельмі цяжка. Ох, як цяжка жыць сярод дрэнных людзей. Мы ж прыносім чалавеку карысць і спяваем яму нашы песні. А ён? Які ён стаў без сэрца! Скажы мне, дзе чалавек згубіў сваё добрае сэрца?“

Птушка змоўкла. І я стаяў і маўчаў. Што ж я мог ёй адказаць? Мне было невыносна цяжка на сэрцы. І я памаўчаўшы, сказаў: „Дарагая, не ўсе яшчэ згубілі сэрца. Вось мая ўнучка Эва перавяжа табе шыйку і прамые вочка. Ты выздаравееш і яшчэ дагадуеш сваіх дзетак. А я пра цябе напішу ў „Зорку“, не чытачы прачытаюць твой сумны расказ і самі ніколі не будуць страляць у птушак і іншым забароняць. „Зорчыны“ чытачы, то добрыя дзеці — яны зла прыродзе не робяць, яны ахоўваюць прыроду. А цяпер супакойся і няхай тваё сэрца так моцна не б'ецца. Вось, крошкі хлеба тваім дзеткам...“

**Васіль Петручук**

(Працяг са стар. 9)




— Ну што: спрала кудзелю?

— Спрала, — кажа Галя і падала ёй гатовы сувой палатна.

Мачыха аж за галаву хапілася: такую работу зрабіла яе падчарка! А тут і суседкі прыйшлі — дзівяцца, якое тонкае палатно выткала Галя. Усе хваляць яе не нахваляцца.

Прыйшла чарга гнаць бычка бабінай дачцы, Юлі. Дала ёй маці верацяно і паўмеха кудзелі.

— Спрадзі, — кажа, — дачушка, гэтую кудзелю і вытчы палатно яшчэ лепшае, чым выткала твая народная сястра. Хачу, каб цябе людзі хвалілі, а не яе.

Узяла Юля тоўсты дубец і пагнала бычка. Гоніць ды ўсё хвошча яго дубцом. Бычок давай кідацца туды-сюды, а Юля бегае за ім, кляне на чым свет стаіць. Бегала, бегала і верацяно згубіла.

Прыгнала яна бычка сяк-так на голы выган, палажыла кудзелю, а сама спаць уклалася. Бычок пабэрсаў кудзелю нагамі і ў гразь утаптаў.

Прачнулася пад вечар Юля, глядзіць — кудзеля ў гразь утаптана... Схапіла яна дубец ды давай бычка біць. Бычок пабег дахаты, і яна за ім з крыкам.

Дома маці пытаецца ў яе:

— Ну як, дачушка: зрабіла работу?

— Ды не, — кажа дачка.

— Чаму?

— Бычок вінаваты. Праз яго я верацяно згубіла, а потым яшчэ ён і кудзелю маю ў гразь утаптаў...

Узлавалася мачыха на бычка. Пайшла да дзеда і кажа:

— Зарэж, дзед, бычка!

— Ці не здурэла ты, баба? — здзівіўся дзед, — навошта нам яго рэзаць?

Тут баба як затупае нагамі, як накінецца на дзеда з кулакамі:

— Калі не зарэжаш, дык я цябе вон выганю разам з тваёю дачкою!

Нічога не зробіш — згадзіўся дзед зарэзаць бычка.

Пачула гэта Галя, пабегла ў хлеў да бычка, абняла яго за шыю і залілася слязьмі.

— Дзеўка-дзявіца, русая касіца, чаго ты плачаш? — пытаецца бычок.

Расказала яму Галя, што надумалася зрабіць злая мачыха.

— Не плач, дзеўка, — кажа бычок. — Лепш паслухай, што я табе параю. Як зарэжуць мяне, вазьмі маю печань і там знойдзеш залатое зярнятка. Пасадзі тое зярнятка ў садку каля хаты. Вось і ўсё.

*Заканчэнне ў наступным нумары*

# ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 96. Дзіна Мармаш, 3 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 112, кв. 14. Ляміс Мажэд, 7 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 108, кв. 11. Зіна Арлова, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 18. Іна Тараненка, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 50. Оля Куцко, 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 47, кв. 41. Лена Манкевіч, 8 клас.




Дзе схаваўся яздок? Знайдзі яго.

# ЗАГАДКІ

**ШТО ЗА ДЗІВА, ШТО ЗА РЭЧ**

На полі аксамітным
Чароўнае пісьмо:
Сярэбраныя літары
І пішацца само,
Удзень яно хаваецца,
Увечары відаць,
А хто з вас пастараецца,
Той можа прачытаць.

**Ніл Гілевіч**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

**Без песні — хоць трэсні!**

# РЭЧАНЬКА

*Беларуская народная песня*




Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць.

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.




# НІЎКА

## ЯК ЗАСНУЦЬ

Жанчына ўладкавала ў ложку дачушку, а сама прынялася за шыццё. Але не-не, дый перахоплівае позірк гарэзлівых вачанятак.

— Ты чаго не спіш?

— Не хачу.

— І што мне з табою рабіць?!

Некалькі хвілін дзяўчына ўважліва глядзіць на рукі маці, а потым і кажа:

— А ты зашый мне вочкі, тады і засну.

## АДКАЗАЎ

Нейк на ўроку настаўніца пытае Міколку:

— Калі ты ідзеш па вуліцы і бачыш прыгожы сад, а ў ім шмат груш і яблык, што ты думаеш пра таго гаспадара?

— Ці мае ён сабаку! — адказаў хлопчык.

## СМУТАК

— Сабачая пагода. Дождж і дождж. А мая жонка не ўзяла з сабою парасона.

— Дарма смуткуеш. Перачакае дождж у нейкім магазіне...

— Менавіта таму і смуткую...

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У тэатры адзін глядач пахіліўся да другога і шэпча:

— Я вас не разумею. Толькі што вы шпурлялі ў гэтага акцёра гнілыя яблыкі, а цяпер выклікаеце яго на сцэну!

— Дык у мяне ў торбе выявілася яшчэ два яблыкі.

*

У джунглях Афрыкі адзін паляўнічы паспрачаўся з калегай:

— Іду ў заклад, што ўпалюю льва яшчэ да абеду. Стаўлю пяць тысяч франкаў.

Ён тут жа пайшоў па здабычу, але замест яго да палаткі праз паўгадзіны прыйшоў леў.

— Тут жыў гэты дурны Дзюран? — спытаў леў.

— Так.

— Яго ўдава вінавата вам пяць тысяч франкаў.

*

Маці да дачкі:

— Ці не сорам табе? Усе твае сяброўкі ўжо развяліся, а ты яшчэ не выходзіла замуж!




## ГУЛЯНКА

— Добра было на гулянцы?

— Не вельмі. Атрымаў два ўдары нажом, чатыры — дручком, а ў фантавай латарэі выйграў толькі салянку...

## ЗАДРЫПКОЎСКІЯ

— Чаму вы заўсёды сварыцеся з жонкай на вуліцы?

— Таму што дома мая жонка прагне спакою.

## З „Весніка Задрыповіі"

### АПРАЎДАННЕ

„Напісанае мною апавяданне не можа быць плагіятам, бо за ўсё жыццё я не прачытаў ніводнага мастацкага твора.

Член літсуполкі „Гара"
А. Сідаркевіч."

### ДЫЛЕМА ДАЦЭНТОВІЧА

А якую санітарную функцыю выконваюць ваўкі ў авечай скуры?

## НА ШАШЫ

Міліцыянер спыняе аўтамабіліста:

— Чаму вы ехалі з недазволенай хуткасцю?

— Бо тармазы сапсаваліся і я хацеў чым хутчэй даехаць дадому.

## НА ПЛЯЖЫ

Маладая дзяўчына, выходзячы з ракі, крычыць старэйшай жанчыне:

— Цёця, ну і халадэча ў рацэ!

— Пэўна, у такім скупым касцюме!

Ён з гатоўнасцю працягне вам руку пасля таго, як падставіць нагу.



## МІНІВЕРШЫ

### ГНУТКІ

Не дапаможа у бядзе
Стыль кіраўніцтва гнуткі:
Аб працы, якасцях людзей
Мяркуе ён па чутках.

**Язэп Бяроста**

### АХВЯРА СЛУЖБОВАЙ ЛЕСВІЦЫ

Праціраў ён локці ў трэсце:
Дзе ні сядзе — не на месцы!
І вышэй яго нарэшце
Вырашаюць перавесці.
Там не локці ён, паверце,
А штаны ўжо мусіць церці.

**Яўген Міклашэўскі**



## КУРЁЗЫ

### ПАЛЯВАННЕ НА МАТАЦЫКЛІСТА

Малады суднабудаўнік Сакольскай верфі (СССР) Е. Радзіёнычаў прыцемкам вяртаўся на матацыкле з працы дадому ў вёску Юркіна. Раптам у яго над галавою пачуўся шум, у руку ўпіліся ўчэпістыя кіпцюры вялізнай птушкі. Ад нечаканасці матацыкліст выпусціў руль і ўпаў. У сутычцы, якая распачалася, перамог чалавек. Ён звязаў шалікам лапы птушкі і прывёз яе ў вёску. Выявілася, што на яго напаў арлан-белахвост, драпежнік, які занесены ў Чырвоную кнігу. Рост птушкі 87 сантыметраў, размах крылаў — два з паловай метра. Але гэтым разам птушку, відаць, зманіла светлая рука вадзіцеля матацыкла, якая хутка рухалася ў цемры, і яна прыняла руку за бягучага звярка.

### СЯРОД ВЯЛІКІХ

Свяшчэннік неяк заўважыў Вальтэру:

— Ці не памірыліся вы з Богам?

— Мы з ім кланяемся, але не размаўляем, — адказаў філосаф.




**Не лезь на ражон, бо ніхто не ведае, як з яго злезці.**